# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1274) ГОД XXV БЕЛАСТОК 27 ЛІПЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.



Беласток

Фота Я. Целушэцкага

# НА БЕЛАСТОК!

Даўнейшы афіцэр Савецкай Арміі, танкіст **Віктар Кір'якоў**, у ліпені 1944 года прымаў удзел у вызваленні Беластока ад гітлераўскіх захопнікаў. Быў тады яшчэ ледзь дваццацігадовым юнаком, бо ў армію пайшоў добраахвотнікам ужо ў першы дзень вайны, зараз жа пасля заканчэння дзесяцігодкі. Найперш накіравалі яго ў танкавае вучылішча, пасля якога прысвоілі яму званне лейтэнанта, і тады ўжо прымаў ён удзел, як камандзір танка, у баях за пераправу праз Днепр, вызваляў Украіну і Беларусь ды такім чынам дайшоў да Беластока.

— У ліпені 1944 года, — успамінае Віктар Кір'якоў, — саракавы танкавы полк, у якім я тады служыў, сканцэнтраваўся ў лесе на подступах да Беластока. 26 ліпеня наш полк атрымаў загад: атакаваць варожыя пазіцыі, размешчаныя на паўднёва-ўсходніх ускраінах горада. Я камандаваў у той час узводам танкаў Т-34. Надосвітку 27 ліпеня была пададзена нам каманда: **„У атаку!“**

Мы рынуліся на абаронныя рубяжы горада, няспынна абстрэльваючы з гармат і кулямётаў агнявыя пункты фашыстаў. Уварваліся на ўскраіну горада. Я ўбачыў фашысцкага салдата, які бег уздоўж вуліцы.

— Дагнаць і раздушыць фашыста, — падаў я каманду механіку-вадзіцелю Мікалаю Татарэнку.

Але вось варожыя снарады і міны пачалі шчыльна класціся вакол майго танка. Танк прытанцоўваў ад выбухаў. Асколкі снарадаў барабанілі па брані. Трэба было хутка знайсці нейкае сховішча. У адным з дамоў я ўбачыў разбураную сцяну.

— Праём у сцяне бачыш? — спытаў я ў Татарэнкі.

— Бачу.

— Заязджай проста ў дом.

Маскіроўка была забяспечана. Мы пачалі абстрэл будынкаў, у якіх заселі фашысты. Жорсткія, крывавыя баі вяліся таксама і ў іншых частках горада. Нашым пяхотным падраздзяленням даводзілася браць штурмам амаль кожны дом, кожную вуліцу. Бачу, як з аднаго з дамоў пачалі выскакваць немцы і, прыгнуўшыся, беглі ўздоўж вуліцы.



Віктар Кір'якоў, удзельнік баёў за вызваленне Беластока, зараз настаўнік гісторыі, жыхар Мінска.

— Агонь па фашыстах! — падаў я каманду. Камандзір гарматы Араз Тангрыбердзіеў адкрыў прыцэльны агонь. Уцячы ўдалося нямногім фашыстам. Справа і злева ад мяне вялі таксама агонь два іншыя танкі з майго ўзводу. Можна было ехаць далей. Падаю каманду:

— Наперад!

— Не заводзіцца матор! — чую голас Татарэнкі. Затым ён выскаквае з танка, каб агледзець матор. У гэты момант побач нас узрываецца міна. Татарэнка схапіўся за грудзі. Выскакваем усе: я, Тангрыбердзіеў, зараджаючы Валодзя Казлоў, стралок-радыст Іван Кучын. Перавязваем Колю. Аглядаем танк. Матор прабіты асколкам. У гэты час падыходзяць іншыя танкі палка, а з імі санітарная машына. Татарэнку забіраюць санітары.

У другой палове дня 27 ліпеня Беласток быў поўнасцю вызвалены. Мне асабліва запомнілася радасць насельніцтва вызваленага горада. На працягу цэлага тыдня я знаходзіўся ў Беластоку, пакуль рамантавалі наш танк. І кожны дзень да нас прыходзілі жанчыны, пажылыя мужчыны і асабліва шмат дзяцей. Усяляк імкнуліся яны аказаць нам сваю дапамогу, пачаставаць чым-небудзь. Але чым? Акупанты начыста ўсё забралі.

Праз тыдзень наш танк адрамантавалі, прыслалі новага механіка-вадзіцеля, і мы дагналі свой родны полк. Затым зноў пачаліся цяжкія баі за вызваленне Польшчы. Фарсіраванне Нарвы, штурм Гданьска, узяцце Познані. І, нарэшце, завяршальны этап вайны ў самым логаве фашысцкай Германіі — у Берліне.

Віктар Кір'якоў закончыў вайну на Эльбе ў раёне горада Грабава. Быў тады ўжо капітанам, камандзірам танкавай роты. Зараз Віктар Кір'якоў жыве і працуе ў Мінску. Вучыць моладзь гісторыі ў энергетычным тэхнікуме і шмат часу прысвячае на грамадскую, патрыятычную дзейнасць, а таксама піша баявую гісторыю свайго палка.

((вр)

# ...В МЕСТЕ ЗОВЕМОМ ЗАБЛУДОВОМ...

*„Нас, чытачоў „Нівы“, цікавіць мінулае нашага рэгіёна, і мы з задавальненнем прачыталі б аб Заблудаве і першадрукарах Іване Фёдараве і Пятру Мсціслаўцу, што ў ім выдавалі кнігі“.*

(З ліста Міхала Маліноўскага з Бельска)

Мінулае не паскупіла Беласточчыне значных падзей і выдатных людзей, што займаюць у гісторыі славянскіх і іншых народаў віднае месца. Да іх якраз і належыць друкарня пры двары гетмана Вялікага княства Літоўскага Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча ў Заблудаве.

Зразумела, у газетным артыкуле немагчыма расказаць падрабязна пра гэты першы на Беласточчыне і адзін з першых ва Усходняй Еўропе „варштатаў друкарскіх“. Прыгадаем найважнейшыя факты. Перш за ўсё — некалькі слоў пра першадрукароў Івана Фёдарава Масквіціна і Пятра Цімафеева Мсціслаўца. Даты нараджэння іх невядомыя. Мяркуюць, што Фёдараў паходзіў з Масквы, на гэта паказвае яго мянушка „Масквіцін“, відаць, не з заможнай сям'і, доўгі час ён служыў дыяканам у царкве Міколы Гастунскага ў Маскоўскім крамлі. Мсціславец быў родам з беларускага горада Мсціслаўя. Гэты старажытны горад у XVI—XVII стагоддзях славіўся высока развітымі разнастайнымі рамёствамі і бойкім гандлем, які вялі мсціслаўскія купцы з Вільняй, Масквой і іншымі тагачаснымі вялікімі цэнтрамі. Мсціславец належаў да тых шматлікіх рамеснікаў з беларускіх гарадоў, што прыбывалі ў Маскву, ужо ў той час адзін з найбольшых гарадоў Еўропы, у пошуках цікавай для іх работы і высокіх заробкаў. Сяброўства гэтых двух людзей было знакамітае: Фёдараў дасканала арыентаваўся ў тагачаснай багаслоўскай літаратуры, а Мсціславец быў дасканалым гравёрам.

У 1563 г. у маскоўскай друкарні, абсталяванай за кошт царскай казны, яны пачалі працу над выданнем „Апостала“ і закончылі яго друкаванне ў сакавіку 1564 г. Хоць гэта і не была першая друкаваная кніга ў Маскве, бо ў 1552—53 гадах тут ужо друкаваліся кнігі, але ў ёй у першыню падаецца год выхаду кнігі, месца яе выдання і прозвішчы друкароў. Таму ў гісторыі рускага кнігадрукавання якраз гэтае выданне называецца „Первопечатным апостолом“. У 1565 г. Фёдараў і Мсціславец надрукавалі дзве версіі „Часоўніка“. Потым, відаць пад націскам кансерватыўна настроенага духавенства і перапалоханых канкурэнцыяй перапісчыкаў кніг, яны спынілі сваю друкарскую дзейнасць у Маскве.



Герб Хадкевічаў. Гравюра П. Мсціслаўца ў „Учыцельным евангеллі“ з 1569 г.

Друкары падаліся ў суседняе Вялікае княства Літоўскае. Тут у тым часе ішла вельмі вострая ўнутрыдзяржаўная барацьба вакол уніі з Каралеўствам Польскім. Абаронцы дзяржаўнай самастойнасці Вялікага княства Літоўскага спасылаліся на багатую культурную спадчыну сваіх народаў, падтрымлівалі праваслаўе, процістаўляліся каланізатарскім імкненням польскіх маг-

(Працяг на стар. 4)

**ШТО НОВАГА**

## VII З'ЕЗД УГКТ

29 чэрвеня г.г. адбыўся VII з'езд Украінскага грамадска-культурнага таварыства. Узяло ў ім удзел 113 дэлегатаў. Са справаздачнага даклада ГП УГКТ даведваемся, што братняя арганізацыя налічвае 6233 членаў, згураваных у 167 гуртках, і дзейнічае ў 22 ваяводствах, найлепш — у паўночных. Структурныя змены, якія адбыліся на VI з'ездзе (перасталі дзейнічаць ваяводскія і павятовыя праўленні), не спрыялі пагаршэнню арганізацыйнай працы таварыства, бо былі створаны ваяводскія групы актыву, якія дзейсна дапамагалі гурткам пашыраць і разгортваць работу. Сёння УГКТ мае 67 мастацкіх калектываў (на 21 больш, чым было на VI з'ездзе), у тым ліку 7 тэатраў паэзіі і 12 музычных калектываў. Найбольш вядомыя: „Журавлі", „Ослав'яни", „Верховина", „Проліски" (дзіцячы), „Сусідойки". Усе мастацкія калектывы ў справаздачным перыядзе далі 570 канцэртаў, у тым ліку ў звыш 100 вёсках.

Добра прадстаўляецца аплочванне членскіх складчын. Нягледзячы на павышэнне іх з 12 на прынамсі 24 зл., члены добрасумленна выконваюць гэты статутовы абавязак, і таварыства кожны год перавыконвае гэту бюджэтную пазіцыю.

Як сцвярджае спомнены даклад, на цэласць культурна-асветнай работы таварыства ў значнай меры ўплывае дзейнасць творчай інтэлігенцыі. Пры гуртках створаны секцыі творчай інтэлігенцыі. Амбіцыя творцаў-літаратараў, жывапісцаў, графікаў, навукоўцаў — творча дапамагаць таварыству.

Выбранае з'ездам Галоўнае праўленне ўзначаліў Яўген Кохан. Дагэтуляшняму старшыні Міколе Карольку прысвоена званне Ганаровага Старшыні Таварыства.

**(рл)**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### „ПТУШКАГОРАД" НА ДНЯПРЫ

Недалёка ад Магілёва на беразе Дняпра паўсталі вялікія вытворчыя карпусы бройлернай фабрыкі, а крыху паводдаль — шматпавярховыя жылыя будынкі для работнікаў прадпрыемства. Усе працэсы па гадоўлі птушкі механізаваны і аўтаматызаваны. Гэта дазваляе аднаму апаратару даглядаць каля 40 тысяч куранят. Праектная магутнасць фабрыкі — тры мільёны бройлераў у год, або пяць тысяч тон дыэтычнага мяса.

### *КАЛЯНДАР*

**325 гадоў назад**

28.7.1655 пам. С. Сірана дэ Бержэрак, французскі пісьменнік і мысліцель.

**230 гадоў назад**

28.7.1750 пам. І. С. Бах, нямецкі кампазітар.

**90 гадоў назад**

29.7.1890 пам. В. ван-Гог, галандскі жывапісец.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa—Książka—Ruch", Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch". Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
B.Z.Graf. Zam.1157. Nakład 6.600 I-5.


## IX З'ЕЗД БГКТ



# ТРЭБА ГАНАРЫЦЦА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРАЙ...

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА ВАРШАЎСКАГА ГУРТКА БГКТ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА)**

— На сённяшнім з'ездзе выступаю я з асаблівай узрушанасцю, — сказаў А. Баршчэўскі ў пачатку свайго выступлення, — бо падобна як у многіх, так і ў мяне з дзейнасцю ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве звязаны самыя прыгожыя гады жыцця.

Заўважыў ён, што БГКТ давялося пачынаць сваю працу ў складаных умовах. Аднак, наша арганізацыя дабілася ў сваёй дзейнасці вялікіх дасягненняў. Яны з'яўляюцца неад'емнай часткай тых велізарных грамадска-гаспадарчых пераўтварэнняў, што наступілі ў Польшчы за 35 год народнай улады. Карэнным чынам змянілася на лепшае жыццё ў горадзе і на вёсцы. Мы, беларусы, удзячны нашай партыі і народнай уладзе за створаныя нам прыхільныя ўмовы для развіцця нашай культуры, нашых прагрэсіўных традыцый, за стварэнне магчымасці ўдзельнічаць нароўні з польскім насельніцтвам у пабудове сацыялістычнай Айчыны. Дабрабыт, у якім жыве цяпер увесь край, з'яўляецца ўдзелам таксама беларускага насельніцтва. Таму абавязак кожнага з нас — бараніць сацыялізм і нашу Радзіму, змагацца супраць варожай прапаганды. Усе мы павінны выконваць свае абавязкі салідна, дбайна, клапаціцца пра лад, дысцыпліну і асабістую адказнасць за выкананне даручаных заданняў.

На жаль, з гадамі ў нашым асяроддзі назіраецца ўсё меней рамантычнага запалу, гатоўнасці да самаахвярнай грамадскай дзейнасці. Таму трэба лічыцца з тым, што нашай арганізацыі будзе працаваць усё цяжэй. У сувязі з гэтым неабходна накіроўваць нашу працу на тыя абшары, дзе яшчэ тояцца значныя рэзервы для яе пашырэння. Наша таварыства і асвета замала працуюць над тым, каб умацоўваць і развіваць у беларусаў, асабліва ў маладым пакаленні, унутраную прывязанасць да ўсяго свайго беларускага, роднага: мовы, культуры, традыцый. Трэба, каб беларусы ганарыліся сабой, не саромеліся і не выракаліся свайго паходжання. Над гэтым мы павінны працаваць настойліва і няспынна.

Затым А. Баршчэўскі звярнуўся да ваяводскіх уладаў з просьбай, каб яны і надалей стваралі прыхільныя ўмовы для працы абсальвентам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта якраз на Беласточчыне. Яны пераважна паходзяць адсюль, добра ведаюць праблематыку свайго рэгіёна і могуць выдатна спрыяць яго развіццю. Будзе вельмі карысна, калі яны будуць працаваць не толькі ў школьніцтве, але таксама ў галіне культуры, грамадскіх і іншых арганізацыях.

У школах і бібліятэках назіраецца недахоп беларускай літаратуры для дзяцей і моладзі. Неабходна, каб ГП БГКТ разам з іншымі арганізацыямі аб'явіла конкурс на творы для маладых чытачоў, падрыхтавала і выдала падобны зборнік, як некалі „Мой родны край". Трэба таксама падумаць пра літаратурны конкурс сярод школьнікаў.

А. Баршчэўскі падкрэсліў важную ролю, якую адыгрывалі і адыгрываюць у дзейнасці БГКТ аўтарскія сустрэчы літаратараў „Белавежы" з насельніцтвам. Запатрабаванне і ў вёсцы і ў горадзе на жывое беларускае мастацкае слова зусім не змяншаецца, але якраз павялічваецца. Неабходна знаходзіць сродкі і магчымасці на пашырэнне гэтай формы нашай працы. Разам з гэтым трэба рабіць усе намаганні, каб павялічыць колькасць і паскорыць выдаванне зборнікаў твораў нашых аўтараў. Ён заўважыў, што апошні зборнік яго твораў выйшаў 15 год таму назад, а яго творчасць увесь час развіваецца і становіцца больш спелай. Калі яна ўбачыць свет у кніжным выданні?

У заканчэнні свайго выступлення А. Баршчэўскі прыгадаў, што набліжаецца 100-я гадавіна з дня нараджэння вялікіх творцаў у гісторыі беларускай літаратуры і культуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэтая велічная дата па ініцыятыве ЮНЭСКА будзе адзначацца ва ўсім свеце. Наш маральны абавязак — як мага шырэй уключыцца ў падрыхтоўку і правядзенне на найвышэйшым узроўні гэтага нашага нацыянальнага святкавання.

*Фота З. Лянкевіча.*

## Без задняй думкі

### КАПЛІЧКА

Капліčкі стаяць не толькі пры палявых дарогах. Часам узнікаюць яны ў літаратуры і мастацтве, у філасофіі. Выглядае гэта так: вакол вяшчальніка нейкай ідэі групуюцца верныя. Свята вераць у аб'яўленую мудрасць і ўсіх, хто сумняваецца, лічаць адшчапенцамі.

---

У тэорыі капліčку цяжка пабудаваць на спартыўным грунце. Тут усё правяраецца вынікамі на спаборніцтвах. Аднак і ў спорце ўзнікаюць сітуацыі, калі разважныя асобы трапляюць на многія гады пад уладу самых дзіўных шарлатанаў.

---

Спартыўных багоў часам нараджае практыка. Калі нехта нядрэнна трэніруе ў малым асяродку, далёка ад вялікіх шляхоў, можа дабіцца лакальных поспехаў. Тады мае права, каб яго хвалілі і бралі з яго прыклад. Калі аднак той трэнер будзе прагнуць пахвалы за кожную цану, аднойчы — не заўсёды свядома — пачне пазбягаць канфрантацыі з іншымі трэнерамі. Будзе старацца выкарыстаць адносную ізаляцыю свайго асяродка. Строга аблае тых, хто пачне шукаць спартыўных ведаў у іншым месцы. Ён сам з'яўляецца найлепшым носьбітам гэтых ведаў.

Здавалася б, найменшы павеў вялікага спорту зваліць гэтую капліčку. Аднак яна стаіць, бо знайшліся неспадзяваныя саюзнікі, лакальныя аўтарытэты. Міла мець у сваёй мясціне выдатных і творчых людзей, міла іх падтрымліваць і бараніць...

*(„Przegląd Sportowy")*




**Вераб'і ◆ Відаць, мы, беларусы, чагосьці вартыя! ◆ У пошуках гармоніі ◆ Літаратурная старонка ◆Неба ◆ Гародчык цёткі Мальвіны ◆ Якія мы людзі ◆ З маёй званіцы ◆ Слядамі смерці ◆ Весткі з Тафілаўцаў, Бельска, Гайнаўкі, Альхоўкі, Нараўкі ◆ Трускалкі ◆ Калі прысніцца мука ◆ Кастусь пасля палучкі ◆ Песня „Травы, травы".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 27 VII** — 7.00 TTR Zajęcia wakacyjne, sem. III. 7.20 TTR Zajęcia wakacyjne, sem. V. 7.40 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Studio Olimpijskie. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino Teleranka — „Pierścionki Almanzora" — radz. film fab. (baśń filmowa). 10.05 Antena. 10.30 Studio Olimpijskie. 13.25 Dziennik. 13.40 Rolnicze rozmowy. 14.10 Z kamerą wśród zwierząt. 14.35 Tele-Echo. 15.35 Losowanie Dużego Lotka. 15.50 Studio Olimpijskie. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Wichrowe Wzgórza odc. IV — ang. film tel. 21.10 Studio Olimpijskie.

**Poniedziałek 28 VII** — 8.00 Studio Olimpijskie. 14.00 Teleferie oraz film z serii „Niezwykła piątka" odc. pt. „Piątka bawi się wspaniale". 15.15 Program dnia. 15.20 Obiektyw. 15.40 Dziennik. 15.55 Studio Olimpijskie. 19.00 Piosenki Studia Gama. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Siegfried Lenz — Ludzie bez winy. 21.35 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 29 VII** — 10.00 Studio Olimpijskie 13.30 Kino Teleferii — Stawiam na Tolka Banana — odc. VI „Filipek". 14.45 Program dnia. 14.50 Klub Seniora. 15.20 Obiektyw. 15.40 Dziennik. 15.55 Studio Olimpijskie. 19.00 Wirujace nutki — program TV CSRS. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Starszy syn — cz. I — komedia obyczajowa TV ZSRR. 21.20 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik.

**Środa 30 VII** — 8.00 Studio Olimpijskie. 13.30 Teleferie najmłodszych — Podróżuj z nami oraz film — „Jana z dżungli". 14.35 Program dnia. 14.40 Obiektyw. 15.00 Dziennik. 15.15 Losowanie express i małego lotka. 15.25 Studio Olimpijskie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Starszy syn — cz. II — komedia obyczajowa TV ZSRR. 21.25 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik.

**Czwartek 31 VII** — 8.00 Studio Olimpijskie. 13.30 Teleferie — Nieobozowa akcja letnia oraz film z serii „Wojna planet". 15.40 Program dnia. 15.45 Obiektyw. 16.05 Dziennik. 16.20 Studio Olimpijskie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Przed sądem przysięgłych — ameryk. film krym. 21.30 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik.

**Piątek 1 VIII** — 8.00 Studio Olimpijskie. 12.20 **Teleferie** — Cudaczek oraz filmy: Przygody dziwnego psa Huckleberry, „Polowanie", „Augie-Doggie". 13.25 Program dnia. 13.30 Obiektyw. 13.50 Dziennik. 14.05 Wakacje — odc. IV pt. „Znowu razem" (ostatni) — film fab. TP. 14.55 Studio Olimpijskie. 19.00 Teatr Małych Form — T. Gajcy — Do Potomnego, w roli głównej A. Łapicki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Godzina „W" — film fab. TP. 21.40 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik.

**Sobota 2 VIII** — 8.00 Studio Olimpijskie. 12.50 Program dnia. 12.55 Militaria, obronność, nowoczesność. 13.20 Obiektyw. 13.40 Dziennik. 13.55 Studio Olimpijskie. 18.00 Program rozrywkowy TV CSRS. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Świat, który nie może zaginąć — ang. film dok. 20.10 Pogoda dla bogaczy — cz. II, odc. XVIII — ameryk. film fab. 21.05 Studio Olimpijskie. 23.00 Dziennik. 23.15 Blaski i cienie młodości — japoński film fab. (melodramat).

(ur)




**Piątek 25 VII** — 7.35 Kronika Olimpiady. 7.55 Olimpiada. 14.20 Koncert Państwowego Zespołu Tańca Białoruskiej SRR. 18.00 Olimpiada. 20.30 Kronika Olimpiady. 21.45 Gra S. Richter.

**Sobota 26 VII** — 7.35 Kronika Olimpiady. 8.35 Koncert. 8.55 Olimpiada. 18.00 Olimpiada. 20.30 Kronika Olimpiady. 21.00 Wieczór twórczy A. Pachmutowej.

**Niedziela 27 VII** — 7.35 Kronika Olimpiady. 8.55 Olimpiada. 16.25 Panorama międzynarodowa. 16.55 Olimpiada. 20.30 Kronika Olimpiady. 21.00 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**



**Białowieża** Sanchoz i jego dzieci — meksyk. 29—30 VII. Rój — USA 31 VII—1 VIII.

**Bielsk Podl.** Prywatne piekło — USA 28 VII. Niebezpieczeństwo — czes. 29—30 VII. Jajo węża — RFN 31 VII—1 VIII.

**Czyże** Wielki samotnik — bułg. Sekret Enigmy — pol. 30 VII—3 VIII.

**Hajnówka** Racja stanu — fr. 28—30 VII. Zielone lato — pol. 31 VII—1 VIII.

**Michałowo** Nie ma dymu bez ognia — fr. 29—30 VII. Panowie dbajcie o żony — fr. 31 VII —1 VIII.

**Mielnik** New York, New York — USA 30 VII.

**Milejczyce** Dora nadaje — węg. Liberia moja miłość — wł. 30 VII—3 VIII.

**Narew** Na wielkiej rzece — czes. Tortury — fr. 30 VII—3 VIII.

**Narewka** Osada Gawronów — czes. Brat kata — pol. 30 VII—3 VIII.

**Nurzec** Zemsta wilka morskiego — rum. 29—30 VII.

**Orla** Klincz — pol. Ofiara namiętności — hiszp. 30 VII—3 VIII.

**Rajsk** Basen — bułg. Szał — ang. 30 VII—3 VIII.

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА VIII

**Эвалюцыя творчасці.** Пачатак творчасці Янкі Купалы звязаны з яго юнацтвам. Зразумела, што выхоўваючыся ў шляхецкай каталіцкай сям'і — згодна з традыцыяй, услед за сваімі бацькамі — юнак-Купала лічыў сябе палякам. Гэтаму спрыяла не толькі традыцыя, але і тагачаснасць у выглядзе касцёла, панскага маёнтка, адукацыі, літаратуры, тых усіх фактараў, якія на працягу соцень гадоў кіравалі тысячы беларусаў на грунт польскай мовы і польскай нацыянальнай свядомасці. З другога, аднак, боку пачынаючы паэт Купала знаходзіўся пад уплывам беларускай стыхіі, якую складалі: прыгажосць народнай абраднасці, захапляючае хараство фальклору, народная мова, беларускі нацыянальны рух напярэдадні рэвалюцыі 1905 года, рэдкая тады яшчэ беларуская кніга. Пачаткова сіла ўздзеяння прапольскай тэндэнцыі была большай, чым дынаміка ўздзеяння беларускага. З гэтай прычыны пачаткі творчасці Купалы былі польскія, а не беларускія.

У „Аўтабіяграфічных матэрыялах“ Купала даволі дакладна акрэслівае час, у якім быў напісаны першы яго паэтычны твор. „Первое стихотворение написал я в Селище, посвященное сестре в день её именин“.

Вядома, што сям'я Луцэвічаў пераехала ў Селішча ў 1895 годзе. З гэтага вынікае, што першы свой твор напісаў Купала ў 13—14 гадоў. Верш гэты не захаваўся. Не можам, аднак, сумнявацца, што была гэта дзіцячая паэтычная спроба, пазбаўленая літаратурнай каштоўнасці. Так ці інакш праявіўся першы творчы імпульс, які прадвяшчаў паяўленне будучага вялікага таленту.

„Позднее я начал больше писать на разные темы. Но все это вышло у меня случайно. Я сам не верил, что обыкновенные люди могут писать стихи“.

Досыць цяжка сказаць, які прамяжутак часу змяшчаецца ў сцверджанні „позднее“. Можна, аднак, думаць, што пасля напісання „іменіннага“ верша Купала на працягу некалькіх гадоў не праяўляў паэтычных зацікаўленняў. І хаця цяжка паверыць, што трэба было аж 8—9 гадоў, каб творчы імпульс зноў праявіўся, але такі вывад трэба зрабіць, прачытаўшы адпаведны фрагмент „Аўтабіяграфічных матэрыялаў“.

„В каком году начал? Должно быть летом в 1903 или 1904. Писал сначала по-польски, но вскоре начал и по-белорусски. Несколько польских стихов, очень мало, было напечатано в каком-то польском журнале. В каком? — кажется в „Ziarno“. Но вот попадаются мне в 1904 или в начале 1905 года революционные прокламации на белорусском языке и книжки „Дудка белорусская“ Богушевича и „Гапон“ или какая-то другая книжка Марцинкевича, изданные за границей, и все мое польское писание пошло на смарку. С этого времени я начинаю писать только по-белорусски“.

Апошнія інфармацыі ў прыведзеным фрагменце „Аўтабіяграфічных матэрыялаў“, адносяцца да часоў, калі беларуская стыхія пачала фарміравацца ў палітычную акрэсленую структуру. Было гэта звязана з дзейнасцю заснаванай у 1902 годзе Беларускай рэвалюцыйнай грамады — арганізацыі, якая дала пачатак беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. Пакуль аднак уздзеянне гэтага руху скіравала Купалу на чыста беларускі грунт, знаходзіўся ён пад пераможным уплывам польскай стыхіі. Вынікам гэтага ўплыву былі яго польскія вершы, якім не можам не прысвяціць пэўнай увагі.

Новыя вершы



*Беларускі савецкі паэт Аляксей Пысін у часе яго візіту ў рэдакцыі „Нівы“. 1980 г.*

*Фота М. Гайдука.*

### ЛАСТАЎКІ

Ластаўкі нашай радзімы,
Умееце неба дастаць і працяць.
З вамі, пад вамі раслі мы,
Ў крылах свой ўяўлялі працяг.

Вораг у сэрца нам цэліў,
Неба і ноччу пажарам пякло.
Ў ноч за стрыжамі ляцелі,
На папялішча ранялі пяро.

Зведаўшы гора і крыўды,
Зноў вы пад нашай высокай страхой,
Ластаўкі — карыятыды
У белагрудай украсе сваёй.

Люба мне чуць шчабятанне
З ціхай антэны над хаткай старой.
Светлай журбой развітання
Восень павее ў прыціхлы настрой.

З выраем пойдзе спеў летні,
Толькі ж пад стрэхамі з дзён веснавых —
Гнёзды трывалае лепкі,
Можа й трымаюцца дахі на іх.

### УСПАМІН ПРА ЖНІЎНУЮ ПЕСНЮ

Жаўранкі ў полі спякотным віселі,
Зблізку калыскі парыпвалі.
— А ўсю мы пшанічаньку з'елі,

А ўсю мы крынічаньку выпілі.
Зранку дзяўчаты, бабулі, матулі,
Жнеі прыгожага, дзіўнага,
Жніўную песню тужліва цягнулі
З сэрца-клубочка абдымнага.

Серп апускаўся і сонца прыгортваў
Да каласкоў з перавясламі.
Высі і далеч зямную з прыгоркамі
Песня не раз апаясвала.

Часам жанчына, схіляючы жыта,
Зорачку спевам люляла.
К зоркам, дзе сынава пройдзе арбіта.
Песню спачатку паслала.

**Аляксей Пысін**

## З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# ВЕРАВАННІ ІПРАРОЦТВЫ

Часткова было гэта закранута пры апісванні чорнай і белай магіі, але толькі тыя справы і тыя элементы, якія мелі ўплыў і былі неабходнымі пры наношванні чалавеку зла або нясенню палёгкі. Выплывала гэта таксама і пры народным лячэнні, паколькі само лячэнне патрабавала веры, каб быў поспех. Але народнае вераванне — гэта не толькі рэлігійныя Неба і Пекла ды постаці, пражываючыя там, гэта не толькі магічныя спосабы ды забабоны, дэманічныя і спрыяльныя чалавеку звышнатуральныя сілы, але розныя з'явы прыроды. Тут і розныя па сваёй сіле дажджы, і вецер, і сонца, і начное неба, якое ў залежнасці ад зорнасці, дзён тыдня, свят і пор года мела ўплыў на чалавека і часта кіравала яго жыццём ды прадказвала яго лёс. Няраз прадказвала не толькі лёс паасобных адзінак, але і народаў. Па ім прадбачвалі і вайну, і стыхійныя няшчасці. Вялікае значэнне ў народным вераванні мела чорная клубістая дажджавая хмара, з якой не толькі чыталі, але звязана была постаць „планэтніка“, „хмурніка“ ці „воблачніка“. Гэта адно і тое ж, постаць рэальная, бо ўзятая з зямлі з мэтай нашэння на плячах хмуры. Былі гэта людзі моцныя, рослыя ды добра зложаныя. Нават па сённяшні дзень на вялізную бурную хмару ёсць у людзей акрэсленне: „Ну і хмара! Проста аж таворыць“. І гэтыя стогны, паводле народнага веравання, былі нічым іншым як стогнамі „планэтнікаў“ пад цяжарам хмары.

Народнае вераванне, як у адносінах да з'яў прыроды, так і да яе элементаў, прыкладна, дрэў, раслін дало пачатак цікавым і своеасаблівым легендам. Немалы ўплыў мела на іх пазнейшая хрысціянская рэлігія. Так, прыкладна, легенда адносна перуна і маланкі своеасаблівага, характэрнага асіне шуму ці паяўленню рыб у нейкіх сажалках або равах, дзе раней іх там ніколі не было.

Некалькі частак будзе прысвечана паяўленню паасобных звяроў, рыб і птушак, якія найбольш звязаны з жыццём чалавека. Хаця б, прыкладна, бусел, які, паводле людзей, быў некалі таксама чалавекам. Добры Бог аднойчы сабраў у мяшок усё плюгаўства — вужоў, гадзюк, жаб, мышэй, бо перашкаджала яно жыць чалавеку, і загадаў яму аднесці ў раку. Нельга было, аднак, заглядаць у мяшок. Той не вытрымаў і праз цікаўнасць заглянуў. Тыя павыскаквалі і паразлазіліся па зямлі. З той пары Бог замяніў яго ў бусла і загадаў хадзіць і збіраць. Вось ён і ходзіць. І таму ў яго такія доўгія ногі, як у чалавека. Але чалавекам ён стане тады, калі ўсё пазбірае.

Кожная з'ява, кожная расліна мела ў народзе тлумачэнне свайго паяўлення. Несумненна, паўставалі яны даўно-даўно, тады, калі народ быў далёкі ад

(Працяг на стар. 4)

# ПОСПЕХ ГАЙНАЎСКІХ МАЛАЧАРОЎ

На гайнаўскім маслазаводзе (існуе ён ад 1962 года) працуе зладжаны 170-асабовы рабочы калектыў. Цяпер кожны дзень, дзякуючы супрацоўніцтву чалавека і тэхнікі, ён перапрацоўвае 160 тысяч літраў малака (у год у сярэднім каля 39 мільёнаў літраў). Цяпер, летам, з прыёмных пунктаў у вёсках прывозіць яго два разы ў дзень: раніцой і вечарам. Мае завод сваіх дастаўцаў-рэкардыстаў. Да іх належаць: Аляксандр Семяновіч з Іванкаў у Нараўскай гміне (ён кожны дзень прывозіць на пункт скупкі 250 літраў малака), Арсень Маркевіч з Дашоў у Кляшчэлеўскай гміне (ён дастаўляе 160 літраў малака ў суткі), Рыгор Галёнка з Пасечнікаў Вялікіх у Гайнаўскай гміне (ён дастаўляе 150 літраў малака) і Мікалай Пракапюк з Курашава ў Чыжоўскай гміне (ён прадае 130 літраў малака).

Гайнаўскі маслазавод мае на масла і сыры пяць знакаў якасці, у тым ліку на масла знак найвышэйшай якасці. Прадае свае вырабы агульнай вартасці на суму каля 200 мільёнаў злотых у год. У асартыменце сыра „эдамскі““, „падляшскі“ і „сталічны“ малачарскае прадпрыемства займае другое месца ў краіне. Выпускае яго 760 тон у год, у тым ліку 85% у першым гатунку.

У спаборніцтве паміж маслазаводамі ў Беластоцкім ваяводстве гайнаўскі займае першае месца. Вырабляе ён, што варта дадаць, казеін самай высокай якасці (150 тон у год). Вось такіх поспехаў дабіліся дружныя гайнаўскія малачары. Віншуем!

**(яц)**



# ФЭСТ У РЫБАКАХ

Беларускі народны фэст традыцыйна ўжо адбываецца ў Рыбаках (гміна Міхалова) ў першую нядзелю ліпеня. Дата гэтая вядома ў гэтых ваколіцах. Вось таму ў гэты дзень прыбывае сюды многа людзей. І гандаль помніць аб гэтай даце. Розныя тут кіёскі можна ўбачыць: і з цацкамі, і з рознымі ласункамі, і з марожаным, і з іншымі прадуктамі. Цяпер, 6 ліпеня, сабралася на фэсце не менш пяці тысяч людзей рознага ўзросту. Але, на жаль, перашкаджаў дождж. Калі наблізіліся да трыбуны харавыя калектывы, пачаўся проста лівень, які працягваўся амаль дзве гадзіны. Але дождж не разагнаў людзей. Усе яны цвёрда чакалі канцэрта. І дачакаліся. Выступілі „Васілёчкі“ з Бельска і жаночы харавы калектыў з Гарадка (на здымку).

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**



М. Шаховіч

## З народных гаворак

**бронка, — і,** жан. — прыстасаванне да закрывання і адкрывання праезду праз чыгунку, шлагбаўм. Будзе ехаць поезд, бо бронкі закрылісь. Толькі зраоілі, і ужэ одну бронку паламалі. Не праходзь пад бронкай, калі закрыта.

**бык, -а,** мужч. — бетонны слуп, які падтрымоўвае мост. Новы мост стаіць не на палях, а на бетановых быках. Сягоння не паставілі ні аднаго быка. Бык-быком, не тое, што дзеравяны паль.

**лягр, -а,** мужч. — доўгія бярвенні, якія кладуць на краях, уздоўж маста для ўмацавання насціску. Асталося палажыць лягры — і мост гатовы. Не сядай на ляграві, а то выбрудзіш нагавіцы.

**насц лка, -і,** жан. — дошкі, высцілаючыя мост. Трэба рабіць на мосці нову насцілку. І на гэтай насцілцы можна ездзіць. Будзеш ездзіць, аж насцілка праваліцца.

**саматушкі, -ак,** толькі множны лік, — ручныя саначкі. Вазьмі саматушкі і пойдзем на гару. Я не маю саматушак. То будзеш ездзіць маімі саматушкамі.

*(Лука, гміна Міхалова)*

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### КОЗЫРЫ ГАЙНАЎСКАЙ ГМІНЫ

Плошча Гайнаўскай гміны 29342 гектары, у тым ліку зямельныя ўгоддзі займаюць амаль палову, з таго вёскі маюць 7590 гектараў палёў у сярэднім IV і III класаў. У 45 вёсках пражывае каля 6000 асоб. У гміне ёсць каля 1500 гаспадарак. За апошнія гады вёскі вельмі змяніліся. Прыгожыя дамы, вялікія, прасторныя інвентарскія будынкі, новыя дамы культуры, святліцы і рамізы-святліцы.

У апошнія гады ў Гайнаўскай гміне відаць высокая дынаміка росту сельскагаспадарчай прадукцыі. Сяляне прымяняюць высокія колькасці мінеральных угнаенняў (у сярэднім 150 кілаграмаў НПК у чыстым складзе на 1 гектар) і збіраюць значна вышэйшыя ўраджаі сельскагаспадарчых культур, чым у суседніх гмінах (напрыклад, збожжавых культур 24 цэнтнеры з гектара, г.зн. вышэйшыя ад сярэдняй ваяводскай 22 ц/га). У два разы павялічылі яны арэал пасеваў кукурузы. Варта прыгадаць, што ў 1976 годзе ў Гайнаўскай гміне была толькі адна спецыялістычная гаспадарка ў Ліпінах, гадоўля свіней у Алы Панцэвіч. У 1977 годзе спецыялізацыю вялі ўжо 24 гаспадары, а ў 1978 годзе — было ўжо 58 спецыялістычных гаспадарак. Зараз у гміне 123 такія гаспадаркі (найбольш жывёлаводчых) і да канца бягучага года мае іх быць 150. Добрых поспехаў дабіліся тутэйшыя сяляне ў жывёлагадоўлі. Найлепш яна развіваецца ў Пасечніках Вялікіх (тут на 100 гектараў зямельных угоддзяў прыпадае звыш 90 штук быдла), Махнатым, Дубічах Асочных, Старым Беразове, Пуцісках, Барку і іншых вёсках. У Гайнаўскай гміне ёсць спрыяючыя ўмовы для гадоўлі кароў. Вось хаця б тое, што зялёныя ўгоддзі займаюць тут 3300 гектараў.

Гаспадары-спецыялісты вядуць сама менш 10-гектаровыя гаспадаркі. Таварная прадукцыя ў спецыялістычных гаспадарках у пяць разоў вышэйшая, чым у неспецыялістычных. Праўда, у спецыялістычных гаспадарках значна больш капіталаўкладанняў. Варта ведаць, што тут кожная залатоўка хутчэй, чым у іншым месцы, дае прырост прадукцыі.

У мінулым годзе сяляне прадалі дзяржаве 1560 тон жывой вагі свіней і ялаўніку (для прыкладу, у параўнанні з 1973 годам гэта ў два разы больш), 7 мільёнаў літраў малака (таксама ўдвая больш, чым у 1973 годзе), 4125 тон бульбы. 20% агульнай прадукцыі даюць зараз спецыялістычныя гаспадаркі.

Цяпер амаль 1000 сялян Гайнаўскай гміны мае ўжо кваліфікацыйныя дыпломы. Усе яны зацікаўлены, як павялічыць сельскагаспадарчую вытворчасць у сваіх гаспадарках. Варта дадаць, што Гайнаўская гміна займае другое месца ў ваяводстве ў конкурсе „Гміна — майстар гаспадарнасці". Рэч гэта небывалая. Лідэрамі ў галіне сельскай гаспадаркі з'яўляюцца Ала Панцэвіч з Ліпін, Вольга Васілюк са Звадзецкіх, Ян Трафімюк, сын Яна, са Старога Беразова, Уладзімір Міхальчук з Пуціскаў, Пётр Галёнка, Мікалай Галёнка, сын Хведара, Васіль Галёнка, сын Яна, Мікалай Лаўрыновіч, сын Дзмітрыя, Ян Галёнка, сын Рыгора, Мікалай Красько, сын Хведара, Уладзімір Галёнка, сын Філіпа, і Уладзімір Куптэль — усе яны з Пасечнікаў Вялікіх, Анастасія Балтрамюк з Навасадаў, Пётр Сегень з Трывежы, Антон Іванюк з Новага Беразова, Ян Нічыпарук з Чыжыкаў і іншыя.

### ГРАМАДСКІ ПАЧЫН РАБОТНІКАЎ ГС

У вольную суботу, 21 чэрвеня бягучага года, работнікі васількоўскай гміннай спулдзельні выканалі грамадскі пачын агульнай вартасці на суму 6500 злотых (працавала ў той дзень 65 чалавек). Удзельнікі пачыну найбольш папрацавалі пры пабудове бюровых памяшканняў ГС у Васількове па вул. Гродзенскай. **(яц)**

## ці ведаеце, што...

...**Карыцін** быў заснаваны ў 1634 годзе. У 1871 годзе атрымаў ён гарадское хэлмінскае права. У 1799 годзе ў Карыціне пражывала 252 асобы, а ў 1883 годзе — 631. Было тут некалькі малых фабрык. У 1979 годзе ў Карыцінскай гміне пражывала 4440 асоб, у тым ліку 2280 мужчын і 2160 жанчын.



## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСЕЛЬНАЯ
(развітальная)




*Бывайтэ здоровы,*
*бывайтэ здоравы,*
*тутэйшые людзі,*
*прошу нэ судіті,*
*як нас тут нэ буде,*
*як нас тут нэ буде.*

Ад Раісы Чэрнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвеня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.




### МОЙ ГАРОДЧЫК

Гісторыю паэт можа тварыць:
Напрыклад, вось (нашто шукаць нам далей?):
Калісьці Маякоўскі кінуў кліч —
І людзі горад-сад пабудавалі.
Не здолею зрабіць таго сама,
Але надзеяй цёплай грэю сэрца,
Што гэта лёгка пойдзе, як піць даць,
Калі пакліча нашых „белавежцаў",
А кожны з іх з сабою прынясе
Ўсе выкрутасныя мастацкія прыёмы,
Мяшок метафар і гэтак далей
І аднакрылых птушак легіёны.
Даволі нюхаць вам і сумаваць
Па старой вёсцы босай (трохі ў лапцях)
І ціха слёзы ліць (па гарадах),
Давайце лепш на вёску нам вяртацца!
Там Дзядзьку Квасу трэба памагчы,
Што корпаецца адзінока на палосцы,
Працуе, злуе, крытыкуе, верашчыць,
Хоць мае рацыю, часамі пераборшчыць.
А я, Мальвіна, баба хоць куды,
Да танца ды ружанца маладзіца,
Дзе чорт не можа, там гатова памагчы —
Люблю і працаваць і весяліцца.
Пакуль мы дыскутуем, каб расло
Нешта сэнсоўнае хоць на палосцы —
Каб больш гародніны ды кветак, а менш слоў,
Я на пачатак пасадзіла хоць „гародчык".

**Цётка Мальвіна**



# НАШ КЛОПАТ — ДАРОГІ

Як паінфармаваў нас дырэктар Раёна публічных дарог у Беластоку інж. Ян Сянкевіч, з кожным годам нашы дарогі ўсё лепшыя. Беластоцкі дарожны раён ахоплівае сваёй дзейнасцю 17 гмінаў. Мае ён 412-асабовы рабочы калектыў. Сёлетні план пабудовы, рамонту і аднаўлення дарог за паўгоддзе работнікі перавыканалі на суму 10 мільёнаў злотых. Пастараліся! Аднак, не абыйшлося без якіх-небудзь клопатаў. Не ўсё ж ідзе гладка (хаця не хто іншы, а іменна яны робяць роўныя і гладкія, як стол, дарогі). Адрамантавалі шматлікія адрэзкі дарог, у тым ліку найбольш дарог-гравеек. Вось хаця б дарогу з Бялевіч у Падазераны праз Вейкі (яе даўжыня 6 кіламетраў) і з Шымкаў у Залешаны. Многа папрацавалі пры пабудове размытай у час паводкі (рака Супрасль) дарогі з Васількова ў Навадворцы (1,5-кіламетровы адрэзак). Цяпер ідзе аднаўленне асфальтаванай дарогі на адрэзку Займа-Міхалова-Юшкавы Груд-Шымкі. Будзе ён гатовы яшчэ ў бягучым годзе. Адрэзак жа гэты немалы. Да канца года будзе адрамантаваны 8,5-кіламетровы адрэзак гравейкі з Валілаў Станцыі ў Залукі праз вёску Валілы. Можна яшчэ дадаць два адрэзкі дарог: з Рушчанаў у Панькі ў Харашчанскай гміне і з Лявіцкіх у Капляны ў Юхнавецкай гміне. Іх таксама ўжо мадэрнізавалі.

— Мы маем аператыўных кіраўнікоў дарожных абводаў, — гаворыць дырэктар. — Напрыклад, Баляслаў Окштэль з абводу ў Міхалове, які ахоплівае гміны Міхалова і Гарадок. Дзякуючы яго намаганням і дзейсным захадам, яшчэ перад летам адноўлена гравейка з Новай Волі ў Плянты (ездзіць па ёй аўтобус ПКС з Беластока ў Гайнаўку праз Нараўку).

Мы перш за ўсё стараемся зрабіць усё, каб дарогі ў нашым раёне былі праязныя ў любую пару года, а калі іх пашкодзілі або яны моцна ўхабістыя, дык неадкладна рамантуем. Дарогі — важная рэч.

Варта дадаць, што дырэкцыя Раёна публічных дарог у Беластоку (сядзіба яе па вул. К. Цыялкоўскага 90) пабудавала сабе гаспадарчым спосабам бюровыя памяшканні. Увайшлі туды ў лістападзе мінулага года. Самі работнікі так іх „выцацкалі" і абсталявалі, што зараз пабыць у іх вельмі прыемна.

**(яц)** Фота В. Рудчыка.

# ВЕРАВАННІ І ПРАРОЦТВЫ

**(Працяг са стар. 3)**

спосабу навуковага тлумачэння і ўсё напатканае на сваёй дарозе прыпісваў творчасці звышнатуральнай сілы.

Асобную частку адводзім паасобным элементам, з'явам і постацям, звязаным у такой ці іншай ступені з хрысціянскай рэлігіяй. Зразумела, прамінем тыпова біблійнае тлумачэнне іх паяўлення і ўздзейнічання на жыццё чалавека, а шырэй спынімся на народным. Несумненна, будзе гэта свайго роду пераплёт рэлігійна-народных думак, але з пераважаючым уклонам на апошняе.

Немалое значэнне ў народным вераванні маюць розныя прароцтвы і прадказванні. Тут будзе спроба пранікнення і паказання далейшага жыцця чалавека, пазнаванне пагоды і прызнакі, па якіх гэта робіцца, ды рознага тыпу варожбы.

У народзе немалое значэнне маюць паасобныя дні тыдня, месяца. Ёсць група пэўных лікаў шчаслівых і нешчаслівых, ёсць колеры спрыяльныя і неспрыяльныя. Гэта якраз часткова лягло ў стварэнне рознага тыпу гараскопаў. Усё яно будзе галоўнай тэмай далейшых частак цыкла.

**Міхась Шаховіч**

**(Працяг са стар. 1)**

# В МЕСТЕ ЗОВЕМОМ ЗАБЛУДОВОМ

натаў. Пры дварах некаторых патрыятычна настроеных вядучых дзяржаўных дзеячоў як Астрожскія, Слуцкія, і ў большых гарадах, напрыклад, у Вільні, паўстаюць значныя асяродкі культуры, у якіх гуртуюцца мысліцелі і творцы. Адным з такіх асяродкаў быў Заблудаў.

Заснавальнікам родавай сядзібы ў Заблудаве быў ваявода навагрудскі Аляксандр Іванавіч Хадкевіч. Ён паклапаціўся пра палац на правым беразе рэчкі Мялецінкі, а на левым — хутка растучае мястэчка. На ўскраінах свайго ўладання — аграмаднай Блудаўскай пушчы — садзейнічае ён развіццю мястэчак Градок і Хварошча, а ў 18 вярстах ад Заблудава на паўночным яе беразе над рэчкай Супраслю садовіць праваслаўны манастыр і шчодра яго пасажыць значным абшарам пушчы і некалькімі даходнымі сёламі. У хуткім часе маёмасці А. І. Хадкевіча вырастаюць у вядомы ў заходняй частцы Вялікага княства Літоўскага гаспадарчы і культурны цэнтр. Пасля смерці ваяводы (у 1549 г.), яго намаганні пра развіццё заблудаўскіх маёмасцей працягвае сын — гетман Вялікага княства Літоўскага, староста гродзенскі і магілёўскі Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч. Пры яго жыцці наступае найвялікшы росквіт родавых уладанняў Хадкевічаў. У Заблудаве спецыяльным актам у 1563 г. Г. А. Хадкевіч разам з заснаваннем новых цэркваў Успення Багародзіцы і Міколы (дагэтуль была царква Варвары) адкрывае пры іх школку для дзяцей з мястэчка і яго ваколіц, а таксама прытулак-бальніцу „для убогіх людзей". Супрасльскі манастыр разрастаецца і становіцца значным асяродкам праваслаўя, у 1557 г. архімандрыт Сяргей Кімбар запрашае з далёкай Сербіі мастака Нектарыя, які ўпрыгожвае сцены манастырскай Благавешчанскай царквы славутымі фрэскамі. У манастырскай бібліятэцы прыбывае не толькі багаслоўскіх, але і свецкіх кніг.

Г. А. Хадкевіч падумвае аб заснаванні ўласнай друкарні. Каб здабыць рукапісныя тэксты для супастаўлення і выбару для друку ён высылае ў 1561 г. манаха Іакіма-Ісаію Камянчаніна (відаць, з Супрасльскага манастыра, а родам з Камянца каля Белавежскай пушчы) у Маскву. Хоча ён „выдати тиснением печатным нашему народу христианскому русскому литовскому да и русскому московскому, да и повсюду всем православным христианам, иже в Болгарех, и в Сербех, в Мыльтанех и Волосех" — як гаварылася ў лісце гетмана да вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча Грознага. Хоць падарожжа Камянчаніна закончылася трагічна, бо яго ў Маскве абвінавацілі ў адхіленнях ад праваслаўя і заключылі ў манастырскі астрог у Растове, то ўсё ж яго побыт у Маскоўскай дзяржаве не прайшоў бясследна. Ад яго, відаць, дайшлі да Фёдарава і Мсціслаўца чуткі аб друкарскіх намерах Г. А. Хадкевіча. Не выключана і тое, што Мсціславец мог знаходзіцца ў нейкіх сувязях са служачымі гетмана, бо Г. А. Хадкевіч быў жа старастам Магілёва — суседняга з Мсціславам горада.

І калі друкары прыбылі ў Заблудаў.



*Пачатак „Евангелля учыцельнага", што выйшла ў Заблудаве ў 1569 г.*

## КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

### ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ КАПІТАНА ЗАПАСУ РЫГОРА АМЕЛЬЯНЮКА

Рыгор Амельянюк нарадзіўся ў Бельску. Бацькі яго паходзілі з мяшчан. Будучы падлеткам, Рыгорка любіў наглядаць за жыццём. У міжваенны перыяд ен вучыўся і закончыў пачатковыя навукі ў мясцовай школе. Пры савецкай уладзе ў 1939—41 гадах прадаўжаў вучобу, паступіў у дзесяцігодку і закончыў яе паспяхова. Пачаў працаваць на пошце ў Беластоку. У чэрвені 1941 г., калі ўзброеныя з ног да галавы гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз, Рыгор Амельянюк якраз быў па службовых справах у Дружынніках каля Гродна, куды вазіў пошту. Там папаў пад бамбёжку нямецкіх самалётаў. Вырваўся з пекла ў Гродне і неяк дабраўся ў Беласток, ды тут ужо не застаў сваіх супрацоўнікаў. Калі ж даехаў у Бельск, горад быў завалены немцамі. Як успамінае сам, два гады знаходзіўся ў Бельску і нагледзеўся на „новы парадак" — расстрэлы нявінных людзей, вывазы ў Нямеччыну. Так і яго ў 1943 годзе вывезлі на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію.

Будучы ў Прусіі, звязаўся з савецкай разведкай, скінутай на парашутах савецкімі самалётамі. Яны разам трапілі ў палон, іх усіх арыштавалі і пасадзілі ў Кенігсбергу ў турму, а потым павезлі ў лагеры. Калі набліжаўся фронт, усіх вязняў сабралі і пагналі пехатой у лагер Штутгоф каля Гданьска. Ад голаду, холаду, хвароб і расстрэлаў з 600 чалавек засталося толькі 150. „Не было нам спакою ні ўдзень, ні ўначы, — успамінае Амельянюк. — Удзень гналі нас па снезе і марозе, а нанач заганялі ў стадолы і замыкалі."

У час аднаго з такіх начлегаў таварышы закапалі Рыгора ў салому ў стадоле, а калі раніцай адыйшлі, ён вылез, неяк здабыў цывільную адзежу, пераадзеўся і стаў прабірацца ў напрамку фронта, які, як чуў па выбухах, быў недалёка. Перайшоў неяк нямецкі фронт, а потым уступіў у рады Савецкай Арміі. Там папаў у 32 Таманскую гвардзейскую дывізію, у 85 Севастопальскі гвардзейскі полк, у супрацьтанкавую 45 батарэю, камандзірам якой быў лейтэнант Новікаў.

Прымаў удзел у барацьбе на тэрыторыі паўночных раёнаў Ольштынскага ваяводства. У час баёў быў два разы паранены. Першы раз лёгка, і не пайшоў нават у шпіталь. Другі раз, 18 сакавіка 1945 года, на прадмесцях Бранева яго раніла цяжка. Ляжаў доўга ў шпіталі, аж да чэрвеня 1945 года. І не бачыў заканчэння вайны. Калі выйшаў са шпіталя прымаў удзел у ліквідацыі бандаў на тэрыторыі Латвіі і Літвы. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся на радзіму, уступіў у рады партыі і чатыры га-

(Працяг на стар. 7)

БУГ У АГНІ

## СУСТРЭЧА СЯБРОЎ

*„...але трэба было мне вяртацца ў дот. І я тады запытаў: „Што з табою будзе?" А Любка адказала: „Тое самое, што з табою...", — і адвярнула ад мяне галаву, і заплакала. І так мы развіталіся, і ад гэтай пары ўжо болей не бачыліся..."*

Так **Пётр Пятровіч Плаксей** закончыў свае ўспаміны пра **Любу Млынарчук.**

Вайна іх раздзяліла. Прайшло амаль 40 гадоў. Аднак памяць захавала ўсё найлепшае. І не памерла мара аб сустрэчы.

*„...І пайшло ўжо ў Перм ад Млынарчукоў афіцыйнае запрашэнне да Пятра Плаксея на пабыўку ў Турне Малой..."*

Так я пад канец гэтага года закончыў быў свой расказ пра ваенны лёс Пятра Плаксея.

І вось у пачатку ліпеня гэтага года пазваніў у нашу рэдакцыю **Міхаіл Млынарчук,** муж Любы, што Плаксей прыехаў! На наступны дзень я паімчаўся ў Турну Малую. На сустрэчу выйшаў высокі, бялявы, плячысты мужчына пад вусікам. Раскрыў шырока рукі на прывітанне і мы абняліся, як блізкія людзі, як добрыя знаёмыя.

— Ну, бачыце, усё ж-такі дачакаліся! — заявіла цётка Люба, калі закончылася цырымонія прывітанняў. — Дзякую вам, што адшукалі нам Пятра... Я ўжо не спадзявалася... — і яна неяк асабліва цёпла паглядзела на свайго госця, які разам з яе мужам сядзеў за сталом і абодва сёрбалі ранішні суп.

— Ці толькі гэта той самы Плаксей, якога я тут ведала? — нібы жартам, нібы ўсур'ёз звярнулася да мяне цётка Люба. — Я не пазнала яго...

— І я яе таксама не пазнаў! — адказаў Пётр Пятровіч.

— Чаго ж вы хочаце? — супакойваў іх Міхаіл Млынарчук, — то ж столькі часу прайшло, столькі бяды і гора ўсім нам давялося пераЖыць, перацярпець...

— Вярнулася я з сенажаці, — прадаўжала сваю думку цётка Люба, — а тут спыняе мяне суседка і кажа, што якісьці чужы ходзіць па нашай вёсцы, гаворыць па-руску, але так не зусім чыста і пра цябе, — кажа суседка, — распытвае. „Няўжо ж гэта Пятро!? — падумала я і хутчэй пабегла яму на сустрэчу. Падыходжу, гляджу і засумнявалася. Перада мною пастарэлы мужчына, у чорным капелюшы, з вусікам. Прыганула я фатаграфію з „Нівы", дзе ён зняты са сваёй жонкай. І да гэтага здымка твар таго чужога мужчыны неяк мне не падходзіць. У „Ніве" ён без вусікаў...

Падыйшла да яго Люба Млынарчук, сказала „Здравствуйте!" і запытала:

— Ці вы гэта Пятро Пятровіч Плаксей?

— Да, я и есть Пётр Петрович Плаксей, — адказаў госць, гледзячы ў вочы жанчыне. — Я к Любе Емельяновне Млынарчук...

Не, не кінуліся яны сабе ў абдымкі, як гэтага можна было б спадзявацца ад герояў кніжак або фільмаў, якія сустракаюцца пасля такога доўгага расстання. Жыццё аказваецца болей суровае. Яны стаялі насупраць сябе і дапытліва ўзіраліся адзін на другога.

(Працяг на стар. 6)



*Праз сорак год разлукі сустрэліся сябры: Люба Млынарчук з вёскі Турна Малая над Бугам і Пятро Пятровіч Плаксей з горада Перм.*

## З маёй званіцы

### ПРЫГОДЫ, НАГОДЫ...

Колькі іх у нашым штодзённым жыцці бывае? Пальцаў на руках і на нагах не хопіць, каб злічыць толкам. Вяселле, хрысціны, пахаванне. На ярмарках „барыш", як у нас кажуць. Сустрэўся кум з кумам — нагода. Прыехаў хлапец да дзяўчыны жаніцца — прыгода. І так спачатку да канца. Гарэлачка цячэ ручаёчкам, быццам крынічная вадзіца. Яна кожнага ажывіць: маўкліваму язык развяжа, нясмеламу смеласці дадасць.

Вось еду я аднойчы цягніком, а ў калідоры нейкі „бацька" хістаецца. Драмаў стоячы, потым на лавачцы прычапіўся, а калі задрамаў, дык нагамі накрыўся. Фігурную гімнастыку, відаць, практыкаваў. А пасля маладой дзеўкі яму захацелася. Тут небарак памыліўся з „абранкай". Толькі штуршок у нос прывёў дзядзьку крыху да раўнавагі. „Бацька", пэўна, вяртаўся з нейкай прыгоды...

Вы, думаеце, што я іншы? Даражэнькія, даўно заракаўся, канец — крышка. Піць не буду. Але калі сустрэўся са сваяком у Белавежы, д'ябал нейкі падкусіў, насёрбаўся, быццам жаба мулу. Жонку зарубежнай мове пачаў вучыць. Толькі мая разумніца хутка вывучыла маю мову і зразумела, чаго я патрабую. Спяць палажыла...

Патрэбна была мне невялічкая дробязь да веласіпеда. Не заўсёды яе ў краме купіш. І што тут зробіш, чалавеча божы? Іду я, значыцца, да знаёмага „шпеца" з варштатаў. А ён кажа:

— Ад рукі раблю, толькі „пляшку" каштаваць будзе. І разам вып'ем.

І як тут адмовіць такому чалавеку? Хіба толькі дурань можа тое зрабіць.

І так паглыбляемся ў бяздонную глыбіню. Няважна, што няма чым закусіць. Раз „пад бочак", іншы раз „пад шыйку" перакульваем кілішкі. Робімся адважнымі і „дзелавымі". У кампаніі — не ў хаце. І жонка не бачыць, грошыкаў не палічыць, колькі затраціў мужычок. Адным словам, грунт кампанія і прыгода. Дык пад „шыйку", дружа!

Ул. Сідарук

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

### ГРАМАДСКІЯ

Як жа часта мы наракаем на рамеснікаў. Што жывуць толькі дзеля грошай, не бачаць суседзяў, не цікавяцца іх справамі. Трапіш да яго — скуру здзярэ.

А ўзнік гэты стэрэатып таму, што рамеснікі жывуць лепш за нас. Тое, што яны гэтага статуса дабіваюцца цяжкай працай (пакажыце вы мне рамесніка, які працаваў бы толькі 8 гадзін у дзень), дык гэтага мы не прыкмячаем. Хачу развеяць крыўдны погляд.

На вуліцы Жабяй у Гайнаўцы жыве столяр Мікалай Ніканчук. Аб ім многа мілага чуў я ад яго суседзяў. І на ўласным вопыце адчуў дабрату гэтага чалавека.

У маёй суседкі сапсаваўся замок у дзвярах. Папрасіла Мікалая Ніканчука, каб паладзіў. Прыйшоў з прыладамі і за паўгадзіны замок вырамантаваў. Думаеце, узяў сотню ды выпіў паўлітра. Ні адно, ні другое.

Аднойчы зламалася ў мяне тапарыска. Асадзіць новае не было чым. Пайшоў я ў майстэрню Ніканчука і прашу, каб дазволіў скарыстацца прыладамі. А ён узяў маё тапарыска і за дзесяць мінут асадзіў мне тапор.

Вясною трэба было мне парэзаць некалькі бярвён на дошкі. Прывёз да Колі Ніканчука. Ён адступіў мне пілу і я нарэзаў сабе дошак. Не ўзяў ні граша.

Другі прыклад добрых суседскіх адносін. На той жа вуліцы ёсць водна-каналізацыйная майстэрня Мікалая Данілецкага. Колькі б чаго ён мне не рамантаваў, ніколі не ўзяў ні граша.

Пасялковы камітэт вырашыў загаспадарыць перад крамай агародчык. Трэба было падрыхтаваць матэрыялы на агароджу. Пайшоў я з гэтым да столяра Льва Сыльвонічка. Нарэзалі 400 штыхет, агаблявалі 14 слупкаў і 28 жэрдзяў. Столяр пры гэтым страціў цэлы дзень. І што вы скажаце? Як даведаўся, што гэта ўсё дзеля грамадскага дабра, не ўзяў ні граша. Сказаў:

— Як вы гэтай справе адводзіце звыш тыдня свайго часу, чаму ж і я не магу адпусціць адзін дзень.

Э. Вайсковіч

як потым успамінаў Фёдараў, гетман „прия нас любезно к своей благоутешной любви, и упокоеваше нас немало время, и всякими потребами телесными удобляше нас". Друкары неўзабаве прыступілі да справы. Шрыфт і гравюры яны прывезлі з Масквы, друкарскі прас зрабілі пад іх наглядам заблудаўскія рамеснікі. Друк першай у Заблудаве кнігі „Учыцельнага евангелля" пачаўся 8 ліпеня 1568 г. і быў закончаны 17 сакавіка 1569 г. Як вынікае з прадмовы да яго, аўтарам якой з'яўляецца сам Г. А. Хадкевіч, пачаткова ён хацеў „сию книгу выразумения ради простых людзей преложити на простую молву", але потым „люди мудрые в том письме" адхілілі яго ад гэтага намеру, бо паводле іх меркаванняў „прекладанием з давных пословиц на новые помылка чинится немалая". Так апраўдваўся Г. А. Хадкевіч перад чытачом, выдаючы ў сваёй друкарні кнігу на стараславянскай мове. Відаць, памяць аб выданнях беларускага першадрукара Францішка Скарыны на беларускай мове, якія паявіліся паўстагоддзем раней, была вельмі жывой ва ўсёй Славяншчыне. „Учыцельнае евангелле" — гэта салідны том памерам „у аркуш" са звыш 800 старонкамі, аздоблены гравюрамі: ва ўсю старонку герба роду Хадкевічаў, і меншымі — застаўкамі, канцоўкамі, буквіцамі. Выданне стараннае і як на тыя часы прадстаўляе сабой высокі друкарскі ўзровень.

У той час, калі ўжо друкавалася „Учыцельнае евангелле", ішла падрыхтоўка да выдання „Псалтыра з Часаслоўцам". Яго друк пачаўся 26 верасня 1569 г. і закончыўся 23 сакавіка 1570 г. Гэта таксама была даволі аб'ёмістая кніга „ў чацвёрку" з каля 660 старонкамі, больш багата, чым папярэдняя, аздобленая гравюрамі. Якраз у друкарскім майстэрстве тут найвыразней відаць уздзеянне традыцый Ф. Скарыны. Ва ўступе да „Псалтыра" Г. А. Хадкевіч заўважае: „Я такожe и впред працы и накладу моего жаловати не буду и другыя книги... друковати дам". Але гетман свайго слова не стрымаў.

Г. А. Хадкевіч быў няўступным праціўнікам уніі Вялікага княства Літоўскага з Каралеўствам Польскім. І калі 1 ліпеня 1569 г. у Любліне быў падпісаны акт аб уз'яднанні абедзвюх дзяржаваў у адну Рэчыпаспалітую, гетман успрыняў гэта як асабіста паражэнне і перажыў цяжкі духовы крызіс. Ён цалкам адхіліўся ад дзяржаўнай дзейнасці, адмовіўся ад пасадаў. Адначасова палічыў, што ўспамагаць друкаванне кніг страціла сэнс. Пра гэта якраз, хоць і вельмі далікатна напісаў ужо пасля яго смерці (12 лістапада 1572 г.) Фёдараў: „егда же приити ему в глубоку старость и начасте главе его болезнию одержиме бывати, повеле нам работания сего престати и художество рук нашых нивочтоже положити". І друкары зразумелі, што ў Заблудаве ўжо няма чаго ім рабіць. Мсціславец падзяліўся з Фёдаравым друкарскай маёмасцю і, забраўшы сваю долю шрыфту, гравюр і друкарскіх прыладаў, падаўся ў Вільню, відаць, не без дапамогі людзей, блізкіх Г. А. Хадкевічу. Там у заможных купцоў Лукі і Кузьмы Мамонічаў заснаваў друкарню, якая пачала працаваць у 1574 г. і на яе прасе было закончана 30 сакавіка 1575 г. друкаванне „Чацвёраевангелля", а праз два гады — „Псалтыра". Потым ідзе суд паміж Мсціслаўцам і Кузьмой Мамонічам за друкарню, і след пра беларускага друкара з Мсціслава гіне.

Фёдараву пры друкаванні „Псалтыра" ўжо, мабыць, дапамагае малады заблудаўскі рамеснік Грынь Івановіч. Калі друк быў закончаны, яны збіраюцца пакінуць Заблудаў. Гетман раіць Фёдараву застацца і нават абяцае яму даць кавалак зямлі. Але друкар адмовіўся, бо, як потым напісаў: „Не удобно ми бе ралом ни же семен сеянием время живота своего съкращати, но имам убо въместо рала художьство наручных дел съсуды, въместо же житных семен духовныя семена по вселеней разсевати". І ён разам з Грынем Івановічам падаліся ў далёкі Львоў. Там рускі першадрукар накіраваў свайго заблудоўскага сябру на навуку рабіць шрыфт да майстра Лаўрэнція Філіповіча. Выданнем у 1574 г. „Апостала" ў Львове яны далі пачатак украінскаму кнігадрукаванню. У тым жа годзе з іхняга прасу сыходзіць першы ва Усходняй Славяншчыне падручнік для пачатковых школ — „Азбука", а пасля ў Львове і Астрозе выходзяць іншыя яшчэ выданні. Івановіч аказаўся здольным вучнем і верным памочнікам Фёдарава. Ён не толькі працаваў са сваім старэйшым майстрам, але ў гадах 1581—82 адліваў, мабыць, шрыфт у друкарні Мамонічаў у Вільні. Затым зноў вярнуўся ў Львоў і працаваў там аж да смерці Фёдарава ў 1583 г. Пасля гэтага вестак пра заблудаўскага першадрукара не захавалася.

Неабходна дадаць, што надрукаваныя ў Заблудаве кнігі разышліся па беларускіх, украінскіх і рускіх землях і выдатна садзейнічалі пашырэнню пісьменнасці.

М. Гайдук



# ОЙ. ДЗЕ ТЫ ЛЕТА?

Хоць праліўныя дажджы пахіснулі нашу веру ў гарачае лета, высылаючы дзяцей на адпачынак, трэба ім даць нешта на выпадак, калі б сонца ўсё ж бліснула. Пакольki надзвычайнай гарачыні спадзявацца цяжка, дзеці павінны мець не толькі пляжныя касцюмы, але і нешта да іх такое, што можна было б накінуць на плечы, калі сонца неспадзявана схавалася.

Якраз на нашых здымках вы бачыце просценькія пляжныя касцюмчыкі, якія можа пашыць сама маці, ледзь умеючая шыць, а да іх — адпаведныя блузачкі, кашулькі ці сукеначкі.

На халаднейшае лета найлепш было б даць дзецям нешта для купання не з эластыку, не з бістору, а са звычайнага крэтону, які будзе хуценька сохнуць і не будзе халадзіць дзіця. Крэтонік можа быць у далікатны ўзорчык, у клетачку, але можа быць і аднастайны, і тады варта яго аздобіць нейкай аддзелачкай з іншага матэрыялу.

**Сяброўка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Вешчу! Што гэта мае значыць? Стаю я ў лесе ні то на вырубе, ні то на паляне і бачу: ляжаць нібы радам адзін за адным на невялікай адлегласці даволі вялікія каменні з высечанымі даволі такі глыбокімі рымскім цыфрамі X. А было іх, каменняў, шэсць або сем, а мо і дзесяць.

А пасля другое і ў другі час. Бачу, узыйшло сонейка, там, як сходзіць у даўжэйшы ўжо дзень, і пайшло на захад, але не як заўсёды, а адваротнаю стараною, паўночнаю. Прашу даць канкрэтны адказ, бо я трохі і сам мяркую. З пашанаю

Дзядзька Павел

**Дзядзька!** Ува сне цяжка дашукацца канкрэтнасці. Чаму ж вы не напісалі, што вы самі меркавалі на тэму свайго сну? Мо і я быў бы тады бліжэй праўды...

Думаю ўсё ж, што нешта ў вашым жыцці пойдзе іншым ходам, чым вы спадзяваліся, можна сказаць, што нешта перавернецца дагары нагамі. Аб гэтым сведчыць ваш другі сон, у якім сонца пайшло на захад іншым бокам. Аб нейкіх цяжкасцях пры гэтым сведчаць каменні, што апынуліся на вырубе на месцы дрэў.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ:** Д. прыгавораны на чатыры гады турмы. На гаспадарцы засталася жонка і трое малых дзяцей. Жонка не дае сабе рады з гаспадаркай, і яна падупадае. Ці ёсць магчымасць старацца, каб улады, беручы пад увагу цяжкое становішча жонкі, звольнілі Д., хоць бы ўмоўна, ад адбывання кары? Дзе і да каго трэба з гэтым звярнуцца?

**АДКАЗ:** Даравацъ кару можа толькі Рада Дзяржавы. Можа яна ўзяць пад увагу цяжкую сітуацыю сям'і, якую пакінуў муж, але бярэ пад увагу і розныя іншыя абставіны. Напрыклад, ці караны ён першы раз, якую меў апінію перад тым, калі ўчыніў злачынства, як паводзіў сябе пасля гэтага, ці пробаваў направіць зло, зробленае злачынствам, якую мае апінію ў турме і іншыя абставіны.

Просьбу перасылаюць у суд, які ў першай інстанцыі выдаў прыгавор. Калі суд прызнае, што прыгавораны на памілаванне не заслугоўвае, пакідае просьбу без выкanання. Просьба або памілаванне можа быць нанава пададзена праз шэсць месяцаў. Калі суд першай інстанцыі згодзіцца на памілаванне, перасылае акты са сваёй апініяй другой інстанцыі, калі справа была разгледжана таксама ў гэтай інстанцыі. Калі ж справа не была разгледжана ў другой інстанцыі, акты кіруюцца Генеральнаму пракурору, які вырашае, ці справу пакінуць без распазнання, ці скіраваць у Раду Дзяржавы. Пракурор абавязаны гэта зрабіць толькі ў выпадку, калі за памілаваннем выказваецца Вярхоўны Суд, або першая і другая інстанцыя. Просьбу аб памілаванні можа падаць прыгавораны, яго абаронца, жонка, сваякі ў простай лініі або працоўны калектыў.



*Навасады.* *Фота Я. Целушэцкага*

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне 23 гады. Закончыла я двухгадовую паматуральную школу і працую ў горадзе, але жыву на вёсцы ў бацькоў. Наша вёска невялікая, моладзі нямнога, а дзяўчат у маім узросце няма (павыходзілі замуж), усе маладзейшыя. Але я з імі на забавы хаджу. Зрэшты, я сябе адчуваю маладой і гуляю не горш за маладых. Толькі вось мама мая, ды яшчэ дзве цёткі — мамíны сёстры — жыць мне не даюць. Сорам, кажуць, што на забавы хаджу, гуляю з малодшымі. І сілаю замуж выпіхаюць. Кажуць, што ўжо старая дзеўка, а калі яшчэ буду адцягваць, дык потым ніхто мяне не захоча. А вось у апошні час дык пайшлі ў атаку на мяне. З суседняй вёскі хлопец стаў да мяне чапляцца. Ён у горадзе працуе, і з дому багаты. Мо гэта ўсё і добра, але ён мне зусім не падабаецца. Але мама ды цёткі кажуць, дробязь гэта, прывыкнеш. Калісьці дзяўчаты пераважна так выходзілі і жылі. Хлопца гэтага дык праз усё гэта я зусім зненавідзела. І калі аднойчы адвячоркам убачыла, што ён едзе на маторы, дык па-за клунямі на канец вёскі да сяброўкі ўцякла. Вярнулася позна, яго ўжо не было. Што было мне за гэта, лепш не гаварыць. Мама наракала, што адзіная яе дачушка такая непаслухмяная. Як крыўдна ёй! Але ж, Сэрцайка, скажы, ці мама не крыўдзіць мяне?

**Аня з Бельшчыны**

**Аня!** Ніякая маці не хоча дзіцяці крыўды. А ўжо над тымі адзінымі, дык тыя мамы аж дрыжаць. І часам, вось як у тваім выпадку, не ўяўляюць сабе, што сапраўды крыўдзяць дзіця, празмерна ўмешваючыся ў справы ўжо дарослай дачкі. Маме здаецца, што хлопец працуе ў горадзе на добрай пасадзе і бацькі багатыя, дык чаго ж больш трэба. Дык яшчэ агортвае яе страх, што табе 23 гады ўжо, дык каб хаця ў старых дзеўках не асталася. Смешна. Гэта ўжо даўно аджыўшае паняцце. Цяпер жа дзяўчаты вучыцца, канчаюць вузы, становяцца самастойнымі і толькі тады найкарысней выходзіць замуж. Ды кіруюцца пры гэтым перш за ўсё пачуццямі. Бо гэта найлепшая гарантыя шчаслівага сямейнага жыцця.

**Сэрцайка**

## Цікавінка

З 444 г. да н.э. часткай праграмы алімпійскіх спаборніцтваў стаў конкурс мастацтваў. На гульнях выступалі гісторык Герадот, філосар Сакрат, аратар Дэмасфен, пісьменнік Лукіян, матэматык Піфагор (ён быў і выдатным атлетам, перамагаў у спаборніцтвах на кулачным баі).

(Працяг са стар. 5)

# СУСТРЭЧА СЯБРОЎ

— Ідзем тады да нас, — апусціўшы вочы, ціха сказала Люба Млынарчук.

— Я к Любе Емельяновне... — зноў заявіў госць з далёкага рускага горада Перм, калі цётка Люба адкрывала жалезныя вароты, за якімі пад нумарам 7 прысела яе драўляная хата. У 1941 годзе яе тут не было зусім, а „Любовь Емельяновна“ разам з бацькамі жыла зусім у іншым месцы, бо Турну Малую перасялілі крыху далей ад Буга, ад граніцы...

А ён спяшаўся. Са станцыі Сямяцічы прыімчаўся ў Турну на таксі, не шкадуючы грошай, каб чым хутчэй быць на месцы, каб убачыць гэтую 18-гадовую дзяўчыну, з якой звёў яго лёс, якая працягнула яму сяброўскую руку з дапамогай, калі найбольш яе патрабаваў. Так спяшаў у гэтую паездку, што нават не напісаў аб гэтым пісьма, не папярэдзіў тэлеграмай. Праўда, Люба і Міхаіл Млынарчукі чакалі яго, але не спадзяваліся так хутка. А ён на працягу сарака мінулых гадоў усё яшчэ бачыў яе вясёлай, задзёрнай дзяўчынай, якая любіла танцаваць і спяваць... А тут перад ім нейкая старэйшая цётка, твар парэзаны маршчынамі, загарэлы, рукі спрацаваныя. Толькі вочы нейкія знаёмыя. „Хто гэта?“ — думае Пётр Пятровіч і здаецца яму, што сустрэў Любчыну цётку, якую ён ведаў.

— Прыйшлі мы ў хату, — расказвае цётка Люба. — А ён азіраецца па кутках і зноў кажа мне, што ён *„к Любе Емельяновне“*. А мяне аж панясло. *„То ж то я!* — гавару яму і, сарваўшы з галавы хустачку, яшчэ дабаўляю: — *Паўзірайся добра, бачыш, якая пасівелая, пастарэлая твая „Любовь Емельяновна!“*

...І тады яны абняліся і па-сапраўднаму, па-сяброўску прывіталіся.

— Я ўзяў Любу, — паясняе Пятро Плаксей, — за яе цётку і таму так дапытваўся ў яе аб Любцы.

— Цёткі маёй даўно ўжо няма сярод жывых.

— Але сапраўды ты на яе падобная, — адазваўся муж.

— Толькі калі мы дружылі з Пятром, цётцы было 30 гадоў, а я ўжо паспела наматаць на свой лёс амаль удвая больш.

— А я, — сказаў Пётр Плаксей, — яшчэ больш, — бо зараз мне 62 гады.

— Так, — уздыхнула цётка Люба, — прайшло наша жыццё... Усе мы пастарэлі...

Яе муж, Міхаіл Млынарчук, адсунуў ад сябе міску са стравай, хвіліну паглядзеў на жонку і тады сказаў:

— Якога тут хрэна хныкаць і ўздыхаць! Цешыцца трэба, што асталіся мы ў жывых, што шчасліва прайшлі праз гэтае пекла...

— О цэ то правда, — адазваўся Пётр Плаксей. — Пэкло то я вжэ настояшчэ бачыв. Тольки не ведаю, ці ў раю давядзецца мне пабываць.

— Дзяцей пагадавалі, унукаў дачакаліся... і мы, і Пятро Пятровіч таксама... — прадаўжаў сваю думку Міхась Млынарчук.

— То ж і я з усяго гэтага цешуся, — сказала цётка Люба.

— Дык рыхтуй тады закуску, — загадаў Міхась Млынарчук. — Трэба ж адзначыць такую сустрэчу.



*Пятро Плаксей ля дота „Быстры“, у якім ён змагаўся ў чэрвені 1941 года.*

— А можа найперш пайшлі б мы наведаць гэтыя месцы, дзе Пятру Пятровічу давялося ваяваць? — запрапанаваў я.

— Чаму ж не, — згадзіўся даўнейшы воін. — Толькі мы тут з гаспадарамі збіраліся сена сушыць...

— Сена не ўцячэ, — заявіў гаспадар. — Што ўжо згніло, таго і так не выратуеш, а што асталося, заўтра дасушым...

І мы паехалі ў доты. Найперш спыніліся мы ля дарогі, што ад Сямяціч ідзе ў Слохі. Схаваўшыся за карчамі і дрэвамі, сярод бульбы і аўса, тырчыць там разбіты дот пад кодавай клічкай **„Быстры“...**

Пятро Плаксей, быццам памаладзеўшы, праскочыў праз прыдарожны роў, спыніўся на ўскраіне поля, хвіліну ўглядаўся навокал, як бы шукаў тых слядоў даўнейшага часу, якія асталіся ў яго памяці.

— Так, гэта і ёсць ён, наш дот пад клічкай „Быстры“, — уздыхнуўшы, адазваўся ён неяк ціха. — Вунь там, — паказаў ён у бок вёскі Слохі, — зараз за маскіровачным плотам быў мой акоп...

І раптам ён замоўк. Зняў свой капялюш з галавы, пацёр далонню па рusых, ужо рэдкіх валасах і задумаўся, як бы застыў на смірна. Я не асмеліўся спыніць гэтай цішыні. І таму наш расказ пра гэтую сяброўскую сустрэчу прадоўжу я ўжо за тыдзень.

**Віктар Рудчык**

# ПРЭМІЯ ЗА СЦІПЛАСЦЬ

— Як здароўечка? — з падкрэсленай увагай запытаў дырэктар, калі Іван Сліўка прысеў на край крэсла.

— Ды нічога. Дзякую, — хмура адказаў той.

— Вось за гэта я цябе і паважаю — самакрытычны ты і сціплы, — працягваў дырэктар.

— Але бліжэй да справы. Мы тут параіліся і вырашылі даць табе невялікую прэмію за сціпласць і самакрытычнасць. Па пяцьдзесят рублёў за адно і за другое. Так сказаць, матэрыяльна стымуляваць.

— Прэмію не вазьму! — падскочыў Сліўка. — Я яшчэ ў мінулым месяцы папярэджваў, каб мне больш ніякіх прэмій не давалі аж да пенсіі. Адпачыць ад іх трэба.

— Ты не турбуйся, — ласкава прамовіў дырэктар. — Раз даём, значыць, так трэба.

— Мне не трэба. Думаеце, калі я малады спецыяліст без вопыту, то мне кожны раз можна даваць? Справядлівасць павінна быць! А то, што вы тут са мною вытвараеце, гэта ж здзек над чалавекам. Я буду скардзіцца.

— Справядлівасць, кажаш? — прыжмурыўся дырэктар.

— Так, усіх трэба заахвочваць. Вось, напрыклад, Сідзяку ніводнага разу яшчэ не прэміявалі, — яму і дайце.

— Я знаю, каго і як заахвочваць. Гэта мая кампетэнцыя. А вось ты паводзіш сябе, як дзіця малое. Я для цябе нуль без палачкі, не паважаеш ты мяне.

— Паважаю, — сумеўся Сліўка.

— Вось і добра, што паважаеш, — сказаў дырэктар. — Атрымаеш прэмію і аднаразовую дапамогу — пойдзеш да Ніны Сямёнаўны, аддасі ёй грошы і дапаможаш закупіць адпаведныя прадукты. Асабіста прасачы, каб партвейну менш бралі.

— Будзе зроблена, — замагільным голасам запэўніў Сліўка. — Не ўпершыню.

— Толькі не думай, што я пра цябе зусім забыў. Неяк потым мы табе прэмію сапраўды выпішам. Рублёў пятнаццаць адвалім. За сціпласць, — запэўніў дырэктар Сліўку, які ўжо паціхеньку зачыняў за сабою дзверы.

**Даніла Руды,**
**Ратмір Тумаsuccessfully**

— Каб разгайдаць трэску, трэба ўскалыхнуць мора, — паракаў вецер.

# НІЎКА

## ЗАПРАШЭННЕ

Сустрэў Кастусь суседа ды й кажа :

— Прыходзь, Іван, у госці!

— А калі да цябе прыйсці?

— Ды не да мяне, а да суседа Парфена: у яго сёння мая жонка дапамагае пірагі пячы.

## ВЫВУЧЫЎСЯ ПОТЫМ

Бабуля сварыцца на ўнука.

— І калі ж ты, шыбеніку, угамонішся. Ну, выкапаны татачка... Той таксама з дзяцінства на галаве хадзіў.

Унук: — А калі ён, бабусю, навучыўся рачком хадзіць?

## ПРЫЧЫНА

Маладая жонка мужу:

— Табе спадабаўся абед які я сёння нарыхтавала?

— Здзіўляюся, чаму ты зноў шукаеш прычыну для сваркі?

## ЗНОЎ БЯДА

— Ну, як вашы новыя суседзі па кватэры? Лепшыя ад папярэдніх?

— Ды дзе там. Тыя, бывала, як гаварылі, дык аж вушы балелі. А гэтыя гавораць шэптам. Прыслухаешся, прыслухаешся, аж сэрца становіцца.

## НАДЗІМАЛЬШЧЫК

Калі, бывала, план гарыць,
Ён дзьмуў і не губляўся —
На лічбах тых, бы на шары,
Высока узнімаўся.
І пра яго казалі:
— Маг!
Захоча — перайначыць!
Хадзіў у перадавіках
З хлуслівай справаздачай.
І прэміяльных меў навар,
Ды захапіўся дужа:
Аднойчы лопнуў мыльны шар —
Ён плюхнуўся у лужу.

**Уладзімір Правасуд**

Hallo, Kollege!

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Сміт, калі я не памыляюся, у мінулым месяцы выпрасілі адпусціць вас на пахаванне дзядулі, а сёння вы адпрашваецеся на святкаванне яго дня нараджэння.

— Разумееце, дзядуля настолькі стары, што пачаў блытаць усе свае даты!

*

— О, вы, аказваецца, дырэктар турмы! — усклікнула дама, разгаварыўшыся з суседам на званым абедзе. — Як гэта цікава! Відаць, вы пачалі з простага вязня і паступова зрабілі такую кар'еру!

*

— Я быў абураны, калі даведаўся, што П'ер уцёк з тваёй жонкай. Я думаў, што ён твой найлепшы сябар.

— Ён і ёсць мой найлепшы сябар, ды ён пакуль яшчэ гэтага не ведае.

## ГОНАР

Выкладчык:

— Я вымушаны паставіць вам „нездавальняюча".

Двоечніца (але спартсменка):

— Эх, прафесар, мабыць, вам не дарагі спартыўны гонар нашага універсітэта?!

## СУПАКОІЎ

У аўтобус уваходзіць кантралёр. Вадзіцель аб'яўляе:

— Грамадзяне пасажыры, падрыхтуйце кантрольныя і праязныя білеты для праверкі кантралёрам. Не хвалюйцеся, грамадзяне, заставайцеся на месцы: кантралёр сам да вас падыдзе.

## ГУМАР З БАРАДОЙ

Мужык да жонкі: — Ведаеш, Тэкля, вельмі нешта добрае я сёння ноччу прысніў.

Жонка: Я такі здагадвалася: праз сон ты крыкнуў: „Дай, Моўша, яшчэ кварту".

З „Весніка Задрыпоніі"

## УНІКУМ

Нічым не ўступае Юлію Цэзару начальнік Я. Прынцыповіч. Ён адначасова гаворыць адно, думае другое, а робіць трэцяе.

## ПЫТАННЕ ГАПКІ

Ці можна лічыць, што чалавек высока ўзляцеў, калі ён лунае ў воблаках?

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галены Мароз з Гайнаўкі, Людмілы і Міры Артэмюк з Парцава змяшчаем песню

## Za rok, może dwa przyjdzie miłość

Dziwna gra, głupia gra
nas wciągnęła i trwa,
kto by to zgadł, tyle już lat.
W samotności wciąż szły
ranki, noce i dni,
a ja mówiłam tak:

Za rok, może dwa
będzie lepiej, jak Bóg da.
Może już za rok lub dwa
zmądrzejemy, ty i ja.
Za rok, może dwa
już się żyć ze sobą da.
Gdy zmęczymy się do cna,
opamiętasz się ty, opamiętam ja.

Za rok, za dwa...

Tyle lat, głupich lat
dopisanych do strat,
więc rzekłam: „już", więc rzekłam: „dość".
Nawet dziś możesz przyjść,
by już razem w świat iść.
Ty na to, jak na złość:

Za rok, może dwa...

Płyną dni, puste dni,
na dnie dni jeszcze my,
z nadzieją, że coś zmieni się.
Odpływamy we śnie
w świat, gdzie nie jest tak źle,
gdzie się na pewno wie:

Za rok, może dwa...

*Двоеборства.*

# Курёзы

## ПРЫВЫКАЙ БЫЦЬ ЕВАЙ

Ці мала што выклікае сарамлівасць у людзей. Адны саромеюцца свайго паношанага адзення, ды яшчэ пашытага не па модзе, другія перажываюць за свае фізічныя недахопы ці проста непрыгожы твар і нязграбную фігуру, трэція адчуваюць сябе нялёмка з нагоды нейкіх сваіх дрэнных учынкаў, чацвёртыя пакутуюць ад сацыяльнай прыніжанасці... А вось з'явіцца на ўсе вочы ў голым выглядзе — тут, бадай, кожны пачырванее.

Праўда, нашы далёкія старажытныя продкі, калі яшчэ не ўмелі шыць для сябе адзенне, не саромеліся хадзіць у тым, у чым маці нарадзіла. Ды цывілізацыя на працягу многіх стагоддзяў зрабіла сваю справу, ухутала цела чалавека ва ўсемагчымае адзенне. Але ж гэта самая цывілізацыя, бывае, на жаль, становіцца падобна да той удавы, якая сама сябе высцебала.

Мабыць, найбольш адметны прызнак цывілізацыі ў ЗША — мноства легкавых аўтамабіляў. Сярод вадзіцеляў шмат жанчын. І калі тая ці іншая парушыць правілы дарожнага руху, то ў адносінах да яе выкарыстоўваюць меру спагнання, якая б на нашых старажытных продкаў не падзейнічала. Парушальніцу прыводзяць ва ўчастак і раздзяваюць дагала: ці няма ў яе выпадкова з сабою зброі? І гэта не капрызы асобных нахабнікаў з ліку ахоўнікаў парадку. Адзін з шэфаў чыкагскай паліцыі Джэймс О'Грэйдзі афіцыйна заявіў, што заканадаўства штата Іллінойс прадугледжвае вобыск усіх парушальнікаў правілаў дарожнага руху з абавязковым поўным распрананнем.

Калі адна дзяўчына-вадзіцель адмовілася распрануцца, дык рыцар дзяржаўнага мундзіра абыякава сказаў, што яна будзе распранута сілаю, да таго ж у памяшканне запрасяць як мага больш мужчын...

# Смяецца з намі

**Тыя, што дзеляць усіх на дурняў і нягоднікаў, не ўсё спрашчаюць — сябе яны не змешваюць ні з першымі, ні з другімі.**